# БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР



№ 5 1927 г.

# Хто чытае „Беларускі Піонэр“?

На гэта пытаньне мы знаходзім адказ у наступнай табліцы падпіскі на часопісь за люты м-ц.

| №№ | НАЗВА АКРУГІ | лік экзэмп. | | разам |
|---|---|---|---|---|
| | | горад | вёска | |
| 1 | Менская . . . . | 228 | **702** | 930 |
| 2 | Бабруйская . . . | 39 | 44 | 73 |
| 3 | Барысаўская . . . | 51 | 68 | 119 |
| 4 | Віцебская . . . . | 29 | 34 | 63 |
| 5 | Калінінская . . . | 39 | 62 | 101 |
| 6 | Магілеўская . . . | 64 | 22 | 86 |
| 7 | Мазырская . . . | 41 | 145 | 186 |
| 8 | Аршанская. . . . | 39 | 139 | 178 |
| 9 | Полацкая . . . . | 22 | 69 | 91 |
| 10 | Слуцкая . . . . | 105 | 26 | — |
| 11 | Гомельская . . . | 2 | 103 | 105 |
| 12 | Рэчыцкая . . . . | — | 57 | 57 |
| | Па-за БССР . . . | 146 | — | 146 |

## Да ўсіх падпішчыкаў часопісі „Беларускі Піонэр“.

З 1-га сакавіка г. г. часопісь „Беларускі Піонэр“ будзе выходзіць акуратна 2 разы на месяц: 1-шы нумар між 10—15 чыслом, а 2-гі—між 25 і 30.

Выдавецтва ЦК ЛКСМБ „Чырвоная Зьмена“, якое цяпер узяло на сябе выданьне часопісі, з свайго боку забясьпечвае акуратны выхад і дастаўку часопісі сваім падпішчыкам.

Як відаць са зьмешчанай вышэй табліцы, падпішчыкаў на нашу часопісь маецца зусім мала. Кожны падпішчык, кожны дзяткор, комсамолец і настаўнік павінны ў першую чаргу ўзяць на сябе абавязак пашырыць як мага больш сярод усіх дзяцей Беларусі іх родную часопісь „Беларускі Піонэр“!

*Выдавецтва ЦК ЛКСМБ „Чырвоная Зьмена“.*

1-ая Дзяржаўная друкарня. Заказ № 1572. Галоўлітбел № 24719.

Да змаганьня за справу працоўных будзь гатоў!

# БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР

**УМОВЫ ПАДПІСКІ:**
На 3 м-цы . . . — р. 60 к.
„ 6 „ . . . 1 р. 20 к.
„ 12 „ . . . 2 р. 40 к.

ДВОХТЫДНЁВАЯ ДЗІЦЯЧАЯ ЧАСОПІСЬ. Орган ЦК ЛКСМБ і НАРКАМАСЬВЕТЫ БССР

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
МЕНСК,
Комсамольская, 25

**№ 5** — **САКАВІК** — **1927 г.**

## Чакаем слова ад піонэраў.

Мала таго, каб толькі ставіць перад сабой заданьні для распрацовак—пара ўжо ўзяцца за праверку асобных галін працы, выявіць што намі зроблена і якім парадкам? Нашы атрады часта мала скарыстоўваюць вопыт іншых атрадаў, між іншым, як гэта трэба рабіць.

Сёньня мы зьвяртаемся да піонэрскіх атрадаў і піонэраў з прапановай: *давайце праверым, што зроблена для арганізацыі разумнага і карыснага адпачынку піонэрскімі атрадамі, клюбамі.*

Давайце выявім на канкрэтных фактах, што мы робім у галіне організацыі адпачынку піонэраў і неорганізаваных дзяцей. Нядаўна аб гэтым пытаньні пісалася ў газэце „Чырвоная Зьмена"; там стаяла пытаньне аб тым, як організаваць адпачынак. Справа піонэраў і піонэрскіх атрадаў расказаць на старонках нашай часопісі пра гэтую работу. Нашы корэспандэнты шмат яшчэ пішуць пра работу атраду наогул, што атрад зрабіў, а зусім ня пішуць, *як гэта зроблена.*

Адпачынак піонэраў у большасьці нашых атрадаў выяўляецца ў тым, што на зборы зьвяна, атрада організуюць гульню, прасьпяваюць песьню, якая ўжо ўсім надаела, і на гэтым усё. Ці досыць гэтага? Вядома, што гэтага мала. Піонэр хоча ня толькі пасьпяваць і пагуляць у часе збору зьвяна ці атраду, але хоча і паслухаць музыку, паглядзець п'есу, пажартаваць, пагуляць у шашкі і г. д.

На гэтую работу атрад не зварачае ўвагі. Нашы кіраўнікі атрадаў ня ўлічваюць таго, чаго жадаюць піонэры, мала даюць ініцыятывы піонэрам у організацыі той работы, якую самі дзеці хочуць праводзіць.

Некаторыя атрады маюць і добрыя прыклады організацыі адпачынку: *ходзяць колектыўна ў кіно, клюбы, організуюць вечары самадзейнасьці, шумавыя оркестры, організуюць майстэрні, жывую газэту, колектыўнае катаньне на санках, на каньках і г. д.*

Вось гэтыя канкрэтныя прыклады нашай работы трэба высьвятляць Той атрад, які змог цікава організаваць адпачынак у тым ці іншым выглядзе, павінен навучыць і другіх праз газэту ці часопісь, як гэта зрабіць. Часамі маецца ў рабоце няяснасьці, памылкі, аб якіх трэба гаварыць і колектыўна іх выпраўляць.

Аб усім гэтым мы *чакаем слова ад піонэраў.*

**А. Пякарчык.**




*(Апавяданьне).*

Гэта тады было, як трава пачала жаўцець і немагчыма было разабраць: ці то дзень пачаўся ці яшчэ будзе пачынацца, ці вясна ці восень... Тады і нуда ў Міхася пачала разьлівацца хмарамі цёмна-халоднымі, дажджлівымі. І кожную восень, вось ужо другі год, як гэтак з ім бывае, абы толькі школа адчынілася і пачалі туды хадзіць вучыцца яго сябры.

Міхасю ўжо мінуў нядаўна сёмы год і ён лічыць, што ўжо можна пайсьці яму і ў школу. Чаму-ж і не пайсьці, калі сёлята пайшлі і яго сябры равесьнікі... Мікола Базылёў, Андрэй Тодараў, Максім Ляксандраў... І ў выпадку, калі не пападзе ён сёлята ў школу, то гатоў, адным словам, у гэту зіму ўжо адным астацца дома без аніякай хэўры.

— Гэта-ж у тую зіму я аніяк ня мог упрасіць матку, каб пусьціла мяне ў школу... Усё мал ды мал, гаворыць! Які я чорта мал? Сёлята так ужо ня будзе!..

З надыходам восені аб гэтым часта падумываў Міхась, ды ня раз ужо рабіў у думках рашучыя пастановы:

— Калі што, дык уцяку ў школу!.. Што-ж мне маці зробіць?!. — І пасучы за могільнікам авечкі з сьвіньнямі, заўсёды думаў аб гэтым Міхась, бо іншыя думы неяк і ня лезьлі яму ў голаву апрача, як аб школе. Мо' ў яго і не такое ўжо было-б багатае ўяўленьне аб школе, каб ня чуў ён апавяданьняў аб ёй і аб жыцьці там вучняў ад свайго сябра Янкі. Той у вялікім захапленьні, як толькі дазваляла яму памяць пражытых там часоў, маляваў з радасьцю ў шэрых вачох пражытыя ў школе тры зімы.

— Ведаеш што, Міхаська, жыў гэтыя зімы, дык лепш як дома ў бацькі!..

— А настаўнік, як-жа ня злосны?..

— Ха-ха-ха!.. Хто табе гэта гаварыў?!.

— Маці мне казала... Кажа, здорава яны, гэтыя настаўнікі, дзяруць за вушы...

— Плюнь, братка мой!.. І мне гэтак казалі, калі я ў школу яшчэ не хадзіў... Ажно зусім ня тое!.. Мо' гэтак і было даўней, як казалі старыя?!.

І з радасьцю гаварыў Янка і з увагай вялікай слухаў яго Міхась. І ні разу ня бачачы школы, толькі ўяўляючы яе, здалася яна Міхасю тым мілым мейсцам, дзе ён можа жыць разам з усімі сваімі сябрамі адным слаўным дзіцячым жыцьцём і адначасна пазнаваць усе таемнасьці навукі.

Так праходзілі дні, а за імі праходзіла й лета. Але для Міхася гэтыя дні цягнуліся нуднай гразкай дарогай: ён пробаваў і лічыць ужо іх, каб дазнацца, ці хутка гэта адчыняць школу, але скора кінуў гэтую работу, бо, пры падліку дзён, час, здавалася, цягнуўся яшчэ даўжэй.

І вось ня меўшы вялікага таварыства, Міхась адзін ў полі снаваў розныя думкі, гамонячы то сам з сабою, то з сваім статкам. Хіба толькі, калі прыгоніць к яму Янка—тады троху яны разьвяселяцца: разам сьпяваюць песьні, якім навучыўся Янка ў школе.

Жалі жыта. І ціхімі, замілавана прыгожымі вечарамі, калі сонейка бралася бліжэй к свайму ложку на адпачынак, калі дзяўчата, дажынаючы дзе паласу, ад вялікай радасьці ў працы песьняй сваёй мякка калацілі пахнучыя мёдам прасторы, — тады забываўся Міхась на свой статак, забываўся, дзе ён і што ён Міхась, і ўсё стаяў дзе-небудзь на шырокай мяжы ў дзятліку ці мятлюгу і слухаў слаўныя іх песьні.

Тады туга ціхая, мяўкая, як песьня жніўная, мякка слалася на душы яго і між іншым нейкая буйная радасьць поўніла ўсю яго істоту, і, ня ведаючы сам, чаму і ад чаго гэта, яму хацелася разам з жнеямі і песьні пець, адчуваючы іх работу ў млосна-здаровых руках і сэрцы, і ціха, адзінотна плакаць... Сьлёзы раджаліся самі сабою: ці то ад мэлёдычных гукаў песьні, ці то ад непакідаючай яго думкі аб школе...

У адзін з такіх вечароў, калі Міхась слухаў дажынкі, і сьлёзы з усьмешкай круціліся ў яго на вачох—у гэты час з гаю выгнаў свой статак Янка і падагнаўся к Міхасю.

— Здароў, Міхась!.. Я, брат, сягоньня за белкай ганяўся, ганяўся ў беразе там, аж лапаць растрыбушыў...—сьмяючыся гаварыў яму Янка, сеўшы на высокую мяжу.

Маўчаў Міхась. Ён, як відаць, зусім другое думаў, і толькі, як Янка, рагочучы, пачаў расказваць, як белка, рынуўшыся зьверху, ледзь ня




— Ну, чаго ты ўзялася!?.

ўскочыла яму на галаву—Міхась сеў побач з ім, і тады заўважыў кніжку ў яго кішэні.

— Што гэта ў цябе?!.—перабіў Міхась, выцягіваючы з Янкавай кішэні кнігу.

— Вось узяў з сабою!.. Думаю сабе, прачытаю трохі, каб зусім не забыцца, зараз-жа і ў школу трэба будзе зьбірацца...

Ад гэтых слоў ёкнула сэрца ў Міхася, і ён з агнём уваччу пачаў перагортываць лісты кнігі, дзівячыся на малюнкі і яшчэ пільней углядаючыся ў чорныя кручочкі-крывулькі...

Усхапіўся і пабег адганяць Янка падышоўшыя каровы к жыту, а Міхась яшчэ ніжэй нахіліўся над кнігаю, разглядаючы яе і нешта шэпчучы сам сабе.

— Ну, што ты, чытаеш ці толькі малюнкі глядзіш?!.—сеўшы побач з ім, кінуў Янка.

— Братка мой!.. Яначка... я табе ўжо што хочаш дам... Як будзе кірмаш і бацька мой уп'еццца—дык выпрашу ў яго дваццаць капеек і ўсё роўна аддам іх табе!.. Пакажы мне літары!..—пачаў упрашаць яго Міхась.

— Давай папробуем!..—згадзіўся Янка, і пад залатыя праменькі заходзячага сонца, на мяжы, сярод іржэўніку, абодва хлопчыкі нізка нагнуліся над кніжкаю...

Пелі жнеі, марудна скублі каровы траву, з хваляваньнем у голасе цягнуў гукі Міхась...

II.

— Мамачка!.. Любачка!.. ну пусьцеце мяне сёлята ў школу... Вы-ж казалі вясной, што калі я буду ўсё рабіць, памагаць вам, дык увосень пайду вучыцца?!.—з сьлязьмі на вачох, прасіўся Міхась у маткі ўжо так другую нядзелю ад таго, як пачаліся ў школе заняткі.

— Яшчэ рана табе, сынок!.. Гэтакія як ты яшчэ ня ходзяць. У марозы, як прусак, зьмерзьнеш дзе на дарозе...

— Мамачка, я ня зьмерзну... Усе такія як я ходзяць ужо ў школу, а толькі вы мяне аднаго ня пускаеце!.. Мамачка?!.

Не здавалася маці на просьбы Міхася.

Каля стала, на лаве, бацька Міхася, Вінцэсь, размачыўшы палосы лык, плёў лапаць, і час ад часу, трымаючы яго ў абедзьвюх руках і пацягіваючы палоскі зубамі, скоса паглядаў на сваю жонку, і маўчаў. Што ён думаў у гэты час—хто яго ведае...

— Мамка, ды я ўжо і літары ведаю, мяне навучыў Янка... Мне зусім лёгка будзе вучыцца!.. Вось адно паглядзеце, як я чытаю!..

І кінуўшыся на печ па кнігу, ён скоранька дастаў яе з-пад бэлькі і, кулём зваліўшыся к мацярыным нагам, пачаў шастаць лістамі, палажыўшы яе на лаву, шукаць знаёмых мейсц прачытанага...

— Адхініся ад мяне!..—злосна перабіла яго маці:—злазь лепш у яму і набяры кош бульбы!.. Ды тады стаўчы сьвіньням цеста!..

— Дык я ўсё роўна пайду ў школу!..—ледзь кінуў Міхась і адышоўся к сталу.

— От я цябе як пайду зараз, дык і дзесятаму закажаш!..—раптам кінуўшы работу, адвярнулася к яму маці з закасанымі па локці мокрымі рукамі.

І толькі посьля гэтага бацька палажыў на стол недаплецены лапаць і, паморшчыўшыся, сказаў:

— Ну, чаго ты ўзялася!?. Хоча вучыцца—няхай вучыцца!.. Што гэта, мы горш за людзей ці што?.. От, няхай, значыць, бегае, абы галаву ня дурыў тут!.. А пакуль што, я памагу табе...

— І ты такая-ж валацуга, як і сын!.. Пачакай, пачакай—наясіся хлеба з гэтай навукі, не адзеў яшчэ торбы старэчай, дык надзенеш!..

Слова за слова, бацькі дайшлі і да сваркі, а гэтым часам Міхась хуценька выцягнуў з-пад падушкі сваю сьвітачку, паправіў на галаве аблавухую шапку, схаваў за пазуху кнігу—і махнуў за дзьверы.

III.

Чатыры гады ў школе мігнуліся для Міхася ў жыцьці, як чатыры дні. З уцехай і радасьцю спаткаў ён іх і гэтак-жа правёў.



У школе адбываліся залікі.

Напралом лезла вясна ў вёску. Раніцамі курылі паплавы, зьвінелі сваімі ціха-прыемным звонам песьняй маладыя сакавітыя гаі, адзетыя ў новыя, толькі што сшытыя зялёныя сарочкі, цешыліся вольнай сваёй шырынёю палі... На новы лад, нібы скінуўшы з плеч сваіх стопудовае ярмо—гаманіла вёска шэрая, бунтарная... З радасьцю першай маладосьці браліся рукі за плугі і з смакам варочалі тлустую зямлю...

У гэты час Міхась сядзеў за вакном, у школе, і глядзеў на поле; нешта цягнула яго з гэтых сьцен у прасторы і неяк само сабою яму на памяць узьбеглі ўспаміны аб яго марах-думках, якія ўжо зьдзейсьніліся... Яшчэ некаторы час ён падумаў, глянуў сваімі шэрымі вачыма на настаўніка, пацёр лоб, абцягнуў каля пояса сваю картовую чорную рубашку і ўзноў узяўся пісаць...

— Вось ужо апошняя тут мая праца... Выпушчу на разыход гэту газэту і буду рыхтавацца да залікаў...—пранеслася ў думках Міхася, і ён сьпяшаўся.

Неўзабаве авясьцілі і апросныя залікі. Пачуўшы, што ў суботу будуць „экзамены“, Вінцэсь раніцаю, управіўшыся каля гаспадаркі, пасьнедаўшы і надзеўшы новыя боты і шапку—пайшоў у школу слухаць як яго сын Міхась „здасьць экзамэнт“...

Кляса выглядала пасьвятошнаму. На пярэдняй сьцяне красаваўся апошні нумар вучнёўскай газэты, якую рэдагаваў Міхась. Да пачатку залікаў хлопцы і мужчыны, зацікаўленыя гэтай газэтай, падыходзілі і гуртам чыталі яе, сьмяяліся. Рад быў Вінцэсь, што суседзі хвалілі яго сына і рад быў Міхась, поўны ў душы сваёй радасьцю...

Толькі позна вечарам скончыліся залікі, да гэтага-ж часу дасядзеў і Вінцэсь, напружаючы свой слух і пільна сочачы за працай камісіі. І як толькі даходзіла чарга адказаў да Міхася—Вінцэсь падымаўся з зэдліка, на якім сядзеў, і шыро-

ка-адчыненымі вачыма, поўнымі нейкага нямога сполаху і нутраной радасьці, сачыў за сынам і за камісіяй. Мала, па няграматнасьці, разумеў ён, што пыталі ў яго Міхася, ня ведаў гэтак сама ён, ці добра хаця адказвае Міхась на запытаньні, але бацькаўскім нутром, сэрцам чуў, што Міхась усё ведае...

Старшыня камісіі падняўся і, гледзячы ў паперку, голасна на ўсю клясу прачытаў:

— Міхась Вінцэсяў Курын выказаў веды за 4 клясы сямёхгодкі... І трэба адзначыць, што першым з усіх вучняў!.. Маладзец, брат Міхась, восеньню ў сямёхгадоўку валяй!..— і пасьля гэтага зачытаў рэшту вучняў.

У цемнаце цёплае ночы пасунуліся, цялёпкаючы лапцямі па сыраватай зямлі, шырокія і даўгія мужчынскія постаці, поўнячы ціш ночы грубымі сваімі галасамі і сьмехам...

Як прышлі бацька з сынам дамоў, маці ўжо спала. Бацька запаліў лямпу і, весела ўсьміхаючыся, разбудзіў матку. Да пеўняў гаварылі ўсе, нарэшце, Вінцэсь пагладзіў сваёй шурпатай рукою па галаве Міхася, які тут-жа каля іх сядзеў на ложку, і, сур'ёзна, гледзячы мацеры ў вочы, сказаў:

— А вось ты і дарэмна яго ня пускала ў школу, бач, і вучыўся й табе ўсё памагаў, яшчэ лепш як да школы. А мне, брат, за яго такі-і-і го-о-о-нар!.. Няхай вучыцца, хоць апошні кажух прадам з плеч, а ткі няхай вучыцца.

— Ды няўжо-ж!.. Дарогі не заступаем!..—вінавата працадзіла маці...

. . . . . . . . . . . . . . .

Гэтай-жа восеньню Міхась вышаў на больш шырачэйшы шлях, ён у ліку першых вучняў папаў у 5 клясу сямёхгодкі...

**М. Ніканович.**






Апавяданьне **Янкі Маўра**. Малюнкі **Тычыны**.

*(Працяг).*

Хлопчык Ра тымчасам сядзеў на дрэве і ўжо ў працягу значнага часу сачыў за нейкім нязвычайным зьявішчам у лесе. Нешта белае, сьветлае мільгала далёка паміж дрэў. Хаця навокал было цёмна, але ў тым месцы з цемры выяўляліся дрэвы і здавалася варушыліся. Ра ня мог стрымаць цікавасьці, зьлез з дрэва і пачаў красьціся ў той бок. Сьвятло ўсё мільгала, дрэвы варушыліся.

Вось ён падышоў зусім блізка, і абамлеў ад страху і зьдзіўленьня. Сярод палянкі ляжала разьбітае маланкай вялізнае старое дрэва. Сухое дупло яго гарэла; языкі полымя віліся і лізалі дрэва. Навакол было сьветла і прытульна. Ра схаваўся за дрэвам і доўга разглядаў адтуль гэта дзіўнае зьявішча. Падысьці бліжэй ён баяўся.

Але ўсё было так ціхамірна, спакойна, агонь так ласкава трашчаў, што Ра асьмялеў і вышаў з-за дрэва. Асьцярожна, бокам, стаў ён падыходзіць, рыхтуючыся зараз-жа ўцячы, калі гэта невядомае стварэньне задумае што-небудзь нядобрае.

Але „стварэньне“ зусім і ня думала кідацца на Ра. Наадварот, сваёю ласкавасьцю, прыемнасьцю, мяккімі рухамі яно быццам запрашала бліжэй да сябе. Ра падышоў зусім блізка і пачуў прыемную цеплату. Мімаволі працягнуў ён рукі над агнём і прастаяў так нярухома некалькі хвілін. Потым завярнуўся і пабег да сваіх.

Махаючы рукамі і паказваючы ў той бок, ён стаў клікаць туды старэйшых і ўсё казаў: „о, о!“ Тады і ўсе заўважылі ў тым баку ледзь значны сьвет і пашлі за хлопчыкам.

Таксама, як і Ра, яны спачатку боязна выглядалі з-за дрэў і не адважваліся падысьці, і толькі тады, калі Ра сьмела падышоў да агию і працягнуў рукі—тады толькі яны падышлі і абхінулі сабой агонь.

Можна сабе ўявіць, што павінны былі пачуць гэтыя прамокшыя і перамёрзлыя людзі!

Твары адразу ажывіліся, вочы заблішчалі. Морды скрывіліся ўжо так, што здавалася вось-вось блісьне ўхмылка.

І палянка ўся ажывілася, зноў пачуліся галасы,—„гутарка“. Людзі весела і жвава таўкліся ля агню. Маткі падымалі дзяцей на руках і працягвалі іх над агнём.

Нехта нават так асьмялеў, што спробваў ухапіць рукою за язык полымя, але зараз-жа закрычаў і пабег прэч, як шалёны. А за ім і ўсе астатнія... Паляна мігам апусьцела, толькі з-за дрэў асьцярожна выглядалі перапалоханыя людзі. Ды было чаго палохацца: аказваецца, што і гэта, здаецца, такая ласкавая і добрая істота, таксама кусаецца і нападае. А што, калі яна пагоніцца за імі?


Маланкай разьбіла дрэва.

Але агонь зусім і ня думаў гнацца за імі. Ён таксама варушыўся сабе на сваім месцы, таксама ласкава трашчаў, таксама сьвяціў і грэў навокал, таксама вабіў да сябе.

Людзі асьмялелі і адзін за другім асьцярожна сталі варочацца да агню. Зноў абкружылі яго, і зноў усё стала добра. Значыцца, уся справа толькі ў тым, каб не чапаць яго. Ён гэтага ня любіць. Але сам, як відаць, нікому ня думае рабіць нічога дрэннага. Наадварот, яшчэ да гэтага часу яны не сустракалі аніводнага стварэньня, якое было-б такім добрым для іх, як гэта.

Сярод лясной цемры людзям было сьветла, цёпла: цела абсушылася. Разам з тым зьмяніўся увесь настрой. Яны ўжо зусім забыліся аб нядаўнім здарэньні і ўсёй сваёй істотай убіралі асалоду цяперашняга шчасьця.

Людзі ўпяршыню бачылі і адчувалі агонь, той агонь, без якога чалавек ня быў-бы чалавекам. Пашана, удзячнасьць, страх,—усе гэтыя пачуцьці нараджаліся ў іх сэрцы; тыя пачуцьці, якія і да гэтага часу захаваліся ў міліёнаў людзей перад тымі зьявішчамі, якіх яны яшчэ ня ведаюць.

А ў некалькіх кроках ад гэтага сьветлага месца прытулілася ноч, яшчэ болей цёмная, сярдзітая, вільготная і халодная. Яна пільнавала з-за дрэў і чакала, каб зноў абхапіць людзей...

Тымчасам пень дагараў. Паступова, няпрыкметна, але няўхільна агонь зьмяншаўся. Рабілася ўсё цямней і цямней і разам з тым усё халадней.

Несьвядомае непакойства аўладала людзьмі. Трывожна пачалі яны праціскацца бліжэй да агню.

Вось і полымя зьнікла. Ноч рынулася з лесу і захапіла палянку...

Але засталіся яшчэ вугольлі, якія крыху грэлі. На іх былі накірованы ўсе вочы, да іх кожны стараўся праціснуцца. Гурток сьціскаўся ўсё шчыльней і шчыльней. Вось ужо заднія нічога ня бачаць, але ўсё шпурхаюцца наперад, не адводзячы вачэй з таго боку, дзе павінен быў быць ён, агонь.

Холад і вільгаць зноў абхапілі людзей, але пакуль што яны іх не адчуваюць.

Прашло яшчэ некалькі часу і агонь пагас!..

Ціхае жалобнае стагнаньне разьнеслася па лесе... Гэта чалавек разьвітваўся з самым дарагім, што толькі мог мець.

І з вачэй яго выкацілася першая сьлязіна...


Сярод лясной цемры людзям было сьветла, цёпла...

Тады ноч выпаўзла з-за дрэў і абхапіла палянку і людзей. Холад і вільгаць, да якіх людзі даўно ўжо прывыклі, цяпер здавалася інакшай, значна горшай. Ля абгарэлага пня, скорчыўшыся, сядзелі цёмныя фігуры.

І ў шырока расчыненых ад жаху вачох іх усё яшчэ адбіваўся агонь...

(Працяг будзе).




## Успамін

**маленькага хлопчыка з часоў боек Чырвонай арміі з белапалякамі.**

„Гуляў я ў садку. Чую ляціць куля... гудзіць... гу... гу...

Я ад яе ўправа - скок, яна за мной.

Я ад яе ўлева—скок, яна за мной.

Я пад кусьцік—скок, яна за мной,

ды мне ў лоб - хлоп, а я ее рукой—цоп, гляджу, аж гэта... жук“.

*Запісана ў Кораньскай школе, Лагойскага раёну.*




# Будзь гатоў.

*(Канец*).*

### Акт III-ці.

Сцэна ўяўляе з сябе небагатую, але даволі чыстую і прыбраную хату. Направа дзьверы; бліжэй да залі—стол з паперамі, налева 2 вакны, на сьцяне портрэты К. Лібкнехта і Розы Люксэмбург.

Зьява І-я.

*На сцэне Маргарыта.*

Маргарыта *(чытае)*: Выкарыстаць дзень Першага Мая, як дзень аб'яднаньня ўсіх рабочых. Правесьці дэмонстрацыю ў рабочых кварталах гораду і ў цэнтры фабрычнага раёну. *(Канчае)*. Хутчэй трэба скончыць распрацоўку, бо праз паўгадзіны пачнецца пасяджэньне камітэту. Не разумею, чаму гэта прышло на думку Ўладзімеру адцягнуць пасяджэньне на цэлае паўгадзіны. Час такі дарагі. Усё чагосьці баіцца за мяне. А памойму, я зусім вольна магу працаваць, седзячы тут у дзіцячым прытулку. Сюды ні адно вока поліцэйскага не загляне. Хіба вось гэта Карлаўна праклятая... Але гэта глупства. *(Чытае)*. Вылучыць больш вопытных членаў організацыі для кіраваньня дэмонстрацыяй. *(Стук)*. Хто гэта? *(Хавае ўсе паперы)*. Хто там?

Вільлі *(за дзьвярыма)*: Гэта мы, цётка Маргарыта. Адчынеце хутчэй. *(Маргарыта адчыняе)*.

Вільлі *(убягаючы)*: Цётка Маргарыта, цётка Маргарыта... *(Зачыняе за сабой шчыльна дзьверы)*.

Маргарыта: Што здарылася, дзеці?

Вільлі: Цётка Маргарыта, бяжэце хутчэй... Вас арыштуюць... Праз 20 хвілін сюды наляціць поліцыя... Амалія Карлаўна ўсё перадала, расказала аб вас... Не рабеце пасяджэньня, цётка Маргарыта.

Аля: Так, так, хутчэй бяжэце, цётачка. Амалія Карлаўна запіску вашу перадала і ўсё, усё расказала.

Маргарыта: Поліцыя сюды?.. Адкуль-жа вы даведаліся?

Вільлі і Аля *(разам)*: Мы падслухалі.

Аля: Чаго яна не расказвала пра вас поліцэйскаму!..

Маргарыта: Дзякую вам! дзякую, дзеткі. *(Бегае, хвалюецца)*. Зараз будзе поліцыя, трэба ўсё схаваць. *(Хавае паперы)*.

Аля *(падышоўшы да портрэта Леніна)*: Вільлі, а гэта хто такі? Які ён добры, відаць, дзядзька, з усьмешкай такой вясёлай.

Вільлі: Гэта дзядуня Ленін. Памятаеш, як у мінулым годзе мы пісалі ўсё, хто мелам, хто вуглем на ўсіх сьценах: „Ленін памёр"? Тады ён памёр... Памятаеш, як шкадавалі тады ўсе яго. Гэта той самы Ленін, які даў дзецям савецкіх прытулкаў новае, лепшае жыцьцё. Ён навучаў іх, як трэба жыць, і дзеці ўсе так шчыра любяць Леніна.

Маргарыта *(падышоўшы)*: Так, дзеткі, Ленін памёр, але заветы яго жывуць у сэрцах працоўных і іх дзяцей. Тое, чаму вучыў нас Ленін, сьвеціць для нас яскравай зоркай і ўказвае нам шлях да новага жыцьця: жыцьця бяз прыгнёту, без паноў і цароў. Ну, а цяпер, дзеці, пасьпяшаемся. Час не чакае...

Аля і Вільлі: Бывай Ільліч! *(Стук у дзьверы)*.

Маргарыта: Хто гэта?

---

*) Гл. „Б. П." № 3-4.

Вільлі: Гэта яны... паліцыя, бяжэце хутчэй праз вакно...

За дзьвярыма: Іменем закона, адчынеце дзьверы. *(Стукаюць)*. Адчынеце-ж, чорт вас вазьмі!..

Маргарыта: Што рабіць, што рабіць? Паперы... усё ў іх...

Вільлі: Цётка Маргарыта, давайце мне, я схаваю іх за пазуху і пралезу праз вакно незаўважаным.

За дзьвярыма: Адчыняй, а то пераломім дзьверы!..

Маргарыта: Зараз, зараз, толькі адзенуся. *(Ціха)*. Вільлі, мілы, даручаю табе гэтыя паперы, дзе ўся будучына нашай арганізацыі. Пастарайся пралезьці незаўважаным і аддаць гэтыя паперы Уладзімеру Пяроўскаму,—наша вуліца, д. № 22.

За дзьвярыма: Ламі дзьверы! *(Чуваць моцны стук)*.

Вільлі: Будзьце спакойнымі, памру, а не аддам ім. Бывайце, цётка. *(Цалуюцца)*.

Маргарыта: Няўжо ўсё прапала?.. За сябе я не баюся, толькі-б паперы вось выратаваў... *(Адчыняе дзьверы)*.

Сьледавацель *(урываючыся з шпікам і паліцыянтамі)*: Чорт знае, што такое... зрабіць вобыск! *(Тыя шукаюць)*.

Сьлед.: Ну, маладзіца, здаецца, ня ў першы раз бачымся з вамі...

Марг.: Я не разумею, што вам патрэбна тут?! Няўжо вы ўсё яшчэ сочыце за мной, я жыву так далёка ад усялякай палітыкі...

Сьлед.: Кіньце хітрыць, я вас знаю і ўсю вашу работу. Сьцеражэцеся жартаваць з агнём—небясьпечна... Вас даўно ўжо чакае турма! *(Падыходзіць да шпіка)*. Ну, што знайшлі?

Шпік *(гнецца)*: Пры вобыску нічога не аказалася, гаспадзін сьледавацель...

Сьлед.: Асёл! Шукаць! перавярнуць усё ўверх дном, а знайці!

Шпік: Слухаюся! *(Злосна шукае)*.

Сьлед.: Ну, маладзіца, удалося захаваць усё. Нічога! Іменем закона я арыштую вас, як актыўнага члена камсамолу і як...

Марг.: Можаце не пералічаць чарговыя пункты абвінавачваньня!.. Ваша красамоўства зусім мне не патрэбна! Я іду за вамі, гаспадзін сьледавацель.

Сьледавацель: Даволі сьмяяцца. Этцінберг, пад строгім канвоем... Паглядзім, хто будзе сьмяяцца апошнім... ха-ха-ха!..

*(Заслона)*.

## Акт IV-ы.

Турма. Справа дзьверы, зьлева ўслон і табурэтка.

### Зьява 1-я.

*На сцэне сьледавацель, шпік і Маргарыта.*

Сьледав.: Доўга яшчэ вы будзеце мучыць мяне сваім: „не, ня ведаю"?.. Ці хочаце, каб я пагаварыў з вамі іншым спосабам? ну, чуеце?! Хто павінен быў быць у вас на пасяджэньні? Якую і калі вы рыхтавалі дэмонстрацыю? Адказвайце!

Марг.: Вам-жа ўсё вядома, гаспадзін сьледавацель. Вы хваліцесь, што ўсё ведаеце. Вашы допыты ў такім разе зусім лішнія...



...Вільлі, мілы, даручаю табе гэтыя паперы...

Сьлед.: Тое, што я знаю, гэта мая справа. А вам я загадваю адказваць на мае пытаньні. Чуеце, ніякіх хітрыкаў!

Маргарыта: Пакіньце мяне, я ўжо сказала, што зусім ня маю намераў гутарыць з вамі.

Сьлед.: Што?.. Ня хочаш гутарыць са мной, сьледавацелем?.. Этцінберг, падрыхтуйце ўсё патрэбнае для таго, каб прымусіць яе гаварыць!

Шпік: Слухаюся!

Маргарыта: Як вам ня брыдка мучыць безабаронную дзяўчыну. Зьвяры! вы думаеце, што напужаеце мяне гэтым, памыляецеся ягамосьці. Я—член комуністычнага саюзу моладзі і прывыкла пераносіць усё за організацыю.



Я тут, цётка Маргарыта!

Сьлед.: Ха-ха-ха! Красамоўна! Я забараняю вам гаварыць са мной. Паглядзім, што будзе з вамі праз паўгадзіны. (*Выходзяць*).

Маргарыта: Праз паўгадзіны... мукі... шампалы... але гэта ўсё глупства... *(Пауза)*. Што цяпер з Вільлі... бедны хлопчык, баюся я за яго... Хаця-б сам выратаваўся... Вільлі, Вільлі, дзе ты цяпер!..

Вільлі *(вылазячы з печкі, чорны, запэцканы):* Я тут, цётка Маргарыта!

Марг.: Што, што бачу я... Вільлі, ты тут? *(Цалуе)*. Як ты папаў сюды? Цябе могуць злавіць тут, бяжы хутчэй адсюль.

Вільлі: Цётка Маргарыта, я прышоў за вамі... хутчэй, хутчэй бяжым адсюль... Аля і вашы сябры ўжо чакаюць вас.

Марг.: Я нічога не разумею, усё як у сьне. Ты тут, але як сюды папаў ты?

Вільлі: Вельмі проста. Я незаўважаным прапоўз ля вартаўнікоў, пасьля па вадаспаднай трубе ўзьлез на страху, а адгэтуль ужо лёгка. Проста праз комін... Цётка Маргарыта, а я не запэцкаўся?

Марг.: Не, ты зусім чысты, як бот... ах, я загаварылася... Вільлі, табе трэба уцякаць адсюль, як мага хутчэй...

Вільлі: Не, цётачка, я выду адгэтуль толькі з вамі або застануся тут. *(Падбягае да вакна)*. Трэба падпілаваць жалеза... і як мага хутчэй, а вы слухайце, каб ніхто ня йшоў. *(Пілуе)*.

Марг. *(пасьля маленькага перапынку):* Давай я папілую, ты стаміўся, Вільлі.

Вільлі: Не... не... яе цяжка пілаваць вам... ох, стаміўся...

Марг.: Давай я. *(Пілуе)*. Ты Вільлі зусім заслугоўваеш назвы піонэра, я ганаруся табой... Ах, яшчэ засталося нямнога, хвілін 20 і ўсё прапала, калі мы не пасьпеем... Ох, стамілася...

Вільлі: Давайце я. *(Пілуе)*...

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Зараз скончу, яшчэ трошкі... раз... два... гатова!.. Ну, цётка Маргарыта, цяпер хутчэй. *(Глядзіць)*. Трэба хвіліны 2 пачакаць, пакуль не пярэйдзе вартаўнік на другі бок.

Марг.: Калі ўдасца ўцячы, будзем зноў у організацыі... Ты, Вільлі, як настаяшчы піонэр, будзеш з намі. Мы даверым табе працу.

Вільлі: Дзякую цётку, я апраўдаю ваша даверра. Ну, а цяпер пара; злазьце вы першай; дваіх вяроўка ня вытрымае. (*Апускае вяроўку*). Старайцеся як мага цішэй...

Марг.: Гатова. (*Лезе*).

Вільлі: І так, я—піонэр... Эй, піонэр, будзь гатоў да змаганьня! (*Вылазіць*).

*(Выходзіць шпік, сьледавацель і 2 паліцыянты).*

Сьлед.: Нешта ціха стала. Эй, вы, красуня, куды падзеліся... Што гэта дзьме так з вакна?.. (*Падбягае да вакна*). Што такое?

Сьледав.: Ах, вы, абармоты, прамаргалі, чорт вас пабраў-бы, пачакайце-ж, я вам пакажу, як глядзець за арыштаванымі. *(Усе зьдзіўлена глядзяць на сьледавацеля)*. Ну, чаго павылупліваліся? жыва ў горад! з зямлі выкапаць, але злавіць яе!.. *(Выбягаюць)*.

**Благамыслаў.**

# КАРЫСНЫ АДПАЧЫНАК І ПРАЦА.

## Экскурсія на лыжах.

*(Уражаньні ўдзельнікаў экскурсіі Менск—Лысая Гара).*

Раніцай, пакінуўшы за сабой заспаныя вуліцы гораду, мы выехалі ў шырокія беласьнежныя палі. Жарты, сьмех, вясёласьць маладую нястрымную пачулі сягоньня троху засмучаныя прасторы. Толькі-ж ад нашай вясёласьці, здаецца, разьвесяліліся і яны. Вось перад намі верставая галінка, адна, другая моўчкі стаяць, апранутыя ў сьнегавую вопратку. Дакраніся да яе і жартаўліва абсыпле яна цябе дажджом сьняжынак срэбных, халодных. Сустрэчныя сяляне з цікавасьцю паглядаюць на нас, сяды-тады абменьваемся пытаньнямі і з добраю асабліваю сялянскую ўсьмешкаю праводзяць яны нас. Ды ня толькі сяляне, а нават гэтыя хвойкі ў яблыках белых, бярозкі і нават самыя ўзгоркі і тыя ветла ўсьміхаюцца нам і шлюць свае прывітаньні.



Але вось неўзабаве пачалі рассыпацца то там, то сям, як грыбы, белыя хаткі, а далей цэлыя вёскі. Мы заехалі ў вёску *Паперні.* Па крывой, вузенькай віліцы мы рушылі да сельсавету. Адгэтуль нам на спатканьне вывальваецца цэлая грамада хлапцоў і старэйшых сялян, якія пачалі зьмешанымі галасамі крычаць і матаць рукамі, шапкамі ў наш бок. Бязумоўна, хутка мы здагадаліся, што сяляне нас вітаюць, як рэдкіх гасьцей у іх вёсцы. Спыняемся. Вызваляемся ад сваіх „драўляных коняй“ (гэтак празвалі сяляне нашы лыжы) і распачынаем з сялянамі гутарку. Зразумела, перш за ўсё аб карысьці лыжаў.

— Эй, што там гэтыя лыжы: забавы дзіцячыя,—моцна смаркаючыся і кашляючы гаворыць адзін з сялян.

— Ого, добрая глупства, я разам з імі з Новасёлкаў вышаў, а бач на колькі мяне выперадзілі,—заўважвае падышоўшы хлапец, якога мы абмінулі ў дарозе. Пасьля спрэчак мы парашылі адпачыць.

Праз хвіліну мы ізноў у палёх. За Паперняй на перагонкі пабеглі адно за адным крутыя ўзвышшы. Гэтыя ўзвышшы цягнуцца аж да самай Лысай Гары і здаюцца адтуль, з вышыні маленькімі, роўнымі паласамі, апырсканымі халоднымі праменьнямі сонца. Наш фотограф (удзельнік экскурсіі), захапіўшыся акаляючымі малюнкамі, робіць здымкі асабліва прыгожых месцаў. Вось едзе з возам сена селянін.

— Дзядзечка, пачакай, пачакай!—крычым яму ўздагон.

Дзядзька спыніўся, чакае і якраз у гэты самы момант наш фотограф „схапіў“ яго на сваю пласьцінку.

— Тут дзядзька, тут, у нас... фотографія будзе, відаць, удалая,—складаючы апарат, здаволена кажа хлопец.

Праз рытвіны сьнегавыя, разлогі лясныя мы йшлі да гары старой, як жыцьцё. Назва яе—Гарадзішчы. З вуснаў тутэйшых людзей ходзяць аб ёй розныя ле-

гэнды старыя. Вось адна. Калісьці (ніхто гэтага і ня ведае—калі яно было і што) стаяў тут касьцёл вялікі, вялікі. Чорнымі абрысамі сваёй вежы ўваходзіў ён далёка ў нябесную сінь. Стаяў гэтак сотні гадоў нярухомым і хмурым. І вось, у адну ноч вясновую гэты касьцёл згінуў з твару зямлі. Людзі перапалохаліся і ня ведалі, што рабіць. Але зьявілася аднекуль цыганка, якая ўзялася выратаваць касьцёл. І вось, як кажа легэнда, цыганка абвязала ніткаю верхнюю частку касьцёлу—крыж, і пачала цягнуць яго наверх з зямлі. Цягнула, цягнула і чуць ня выцягнула. Вось ужо паказаўся ўвесь крыж, толькі цягнуць ёй было вельмі цяжка, і, ня стрымаўшы, прагаварыла яна: „А згінь ты, прападзі!“ У гэтую самую хвіліну ніткі абарваліся і касьцёл ізноў згінуў.

Можа тут аніякага касьцёлу ніколі і ня было, але-ж два выступы, якія абвіваюць гару, даюць нам магчымасьць думаць, што тут калісьці былі нейкія пабудовы. Магчыма, гэта ад панскіх палацаў якіх-небудзь. Шмат і іншых легэндаў створыў фантастычны сьветапогляд тутэйшага селяніна аб гэтай гары.

Калі мы стаім на гэтай гары паміж сямейкі кучаравых асьнежаных хвоек, настаўнік кажа:

— Адгэтуль у яснае надвор'е добра відаць мяжа і нават цэлы кавалачак Заходняй Беларусі—м. Радашковічы.

Руплівым поглядам мы ўпіваемся туды, куды паказвае рука настаўніка. Толькі з-за густога туману нічога ня відаць. Пытаемся:

— А колькі вёрст адгэтуль да мяжы?

— А так, 14-15 будзе.

— Дык яна-ж вялікая ўсё такі гэта гара.

— Карпаты беларускія,—з усьмешкаю на вуснах заўважвае настаўнік.

Далей мы аглядаем курганы. У глухіх і цёмных нетрах гэтых курганоў знайшлі свой адпачынак адважныя швэцкія рыцары, а можа таксама і салдаты Напалеона. І толькі вецер над імі сьпявае сваю разгульную песьню, якую сьпяваў і тысячы год таму назад.

**Мікола Душэўскі.**
**Алесь Каліта.**

---

# Вучымся сталярству.

Кожны дзень ад 7—9 гадзін увечары ажыўляецца няпрыветны будынак цэнтральнага піонэрскага клюбу ад звонкіх дзіцячых галасоў, стукаў піл, рубанкаў, сякер і г. д.

Гэта працуе сталярная майстэрня, організаваная Ляхаўскім Райбюро ЮП, з мэтаю набыцьця піонэрамі працоўных навыкаў і тэхнічных ведаў. 48 дзяцей 12—15 гадовага ўзросту пад кіраўніцтвам інструктароў-комсамольцаў вучацца тут як уладаць варштатам, рубанкам і інш. інструмантамі.

Вось 14-ці гадовы хлопчык. Паглядзеце, як спрытна ходзіць у яго руках піла, як роўна і зграбна выразвае ён патрэбную сабе фігуру з дрэва. Другі нізка схіліўся над варштатам і ўвесь цалкам аддаўся працы: струганьню кавалка дошкі, апроч якой, здаецца, для яго ў гэты момант нічога ня існуе. Відаць сапраўдную зацікаўленасьць працай і захапленьне ёй.

Вы пытаецеся, за які-ж тэрмін дзеці навучыліся параўнаўча ня дрэнна ўладаць інструмантам і ўжо самастойна рабіць некаторыя няскладныя рэчы.

— Пяць тыдняў!—з гордасьцю адказвае стары дзядзька, т. Глезар, галоўны інструктар майстэрні.

Калі прыняць пад увагу такі кароткі тэрмін, кепскае абсталяваньне майстэрні (не хапае прыблізна 60 проц. інструмантаў) нязручнае для працы памяшканьне, дык прыходзіцца сьмела сказаць, што дасягненьні ў працы не малыя.

Юныя майстры.



1. Сталяры.

Тав. Глезар пачынае апавядаць аб перашкодах у працы майстэрні. Акрамя вышэйпералічаных, трэба яшчэ адзначыць неакуратную наведваемасьць інструктароў, недысцыплінаванасьць часткі піонэраў, якія нясур'ёзна глядзяць на гэту працу і г. д.

У апошнім няма нічога дзіўнага, бо падбор дзяцей ня зусім удалы. Некаторыя атрады, вылучаючы піонэраў у майстэрню, прыслалі... 11-гадовых хлопчыкаў, якія ўжо па аднаму свайму ўзросту няздольны да фізычнай працы. Шмат клапот інструктаром з гэтымі малышамі.

Усе дзеці падзелены на 3 групы. Кожная з іх займаецца 2 разы на тыдзень ад 7 да 9 гадзін увечары. Выпрацавана вучэбная праграма, якая разьлічана на 120 гадзін заняткаў.

Тав. Глезар упэўнен, што пасьля 120 гадзін заняткаў (прыблізна праз паўгода), хлопцы будуць мець ня толькі працоўныя навыкі, але і здавальняючыя веды дзеля паступленьня ў першую клясу профтэхшколы.

І мы ўпэўнены, што гэтак будзе.



2. Шаўцы.

Ці апраўдала сябе організацыя майстэрні?—Бязумоўна, адкажам мы. Вопыт Ляхаўкі павінны скарыстаць усе раённыя бюро ЮП і паасобныя атрады.

**Язэп.**



# НАВУКА—ПРЫРОДА—ТЭХНІКА.

## Жыцьцё зьвяроў зімою.

Холадна зімою ўсюды, усё скавана марозам і засыпана сьнегам. Цяжка жывецца ў гэты час і зьверу і птушцы, бо трудна знайсьці корму для прахарчаваньня. Шмат якія з нашых птушак ня могуць пераносіць нашае зімы; яны пакідаюць наш край на зіму і ляцяць у цёплыя краіны, толькі некаторыя з іх застаюцца зімаваць у нас.

Дзікія зьвяры нікуды ад нас на зіму не ўцякаюць, яны застаюцца на цэлую зіму тут, сярод нашых лясоў і палёў, і ўвесь час вядуць бязупынна барацьбу з голадам і холадам.

Мядзьведзь з надыходам зімы стараецца легчы ў бярлог і цэлую зіму там чутка сьпіць, а калі мароз адляжа, то часам выходзіць з бярлога, паходзіць трохі, паходзіць па лесе ды ізноў ляжа. Бярлог мядзьведзь стараецца выбіраць у глухім месцы, высьцілае яго сухім лісьцем і хвойнікам, каб было цёпла, суха. Цэлую зіму ён ляжыць у бярлозе нічога ня еўшы. Зімою ён жыве толькі таей тлустасьцю, якую набывае за лета, к вясьне ўся тлустасьць траціцца на саграваньне цела і мядзьведзі выходзяць з бярлогі досыць худымі. Здараецца часам неўрадлівае і халоднае лета, няма ў лесе ні грыбоў, ні ягад. Цяжка мядзьведзю ў такое лета зрабіцца гладкім. Худы мядзьведзь рэдка калі кладзецца ў бярлог; ён звычайна робіцца сярдзітым, ходзіць па лесе, шукае сабе харчы, ловіць іншых зьвяркоў, разьдзірае іх і зьядае, часам падыходзіць блізка да вёсак і часта гіне ад чалавечае рукі, а бываюць выпадкі, што і памірае з голаду.

Барсук, таксама як і мядзьведзь, засыпае на зіму і жыве таею тлустасьцю, якую нажыў за лета. Гэты зьвярок рые сабе глыбокія норы ў зямлі з некалькімі ўваходамі і выхадамі, таксама як і ліс, толькі норы барсука значна глыбейшыя за норы ліса. У гэтых норах барсук хаваецца летам і зімою. Зімою ён зусім засыпае і прасыпаецца вясною альбо ў часе адлегі.

Ваўкі зімою часта падоўгу ня маюць чаго есьці і, згаладаўшыся, яны часам выходзяць на дарогу і нават прабуюць нападаць на людзей. Галодны воўк вельмі рызыкуе сваім жыцьцём і пускаецца на ўсякія хітрыкі, абы толькі здабыць сабе харч. Зімою ўночы яны часам прагрызаюць сьцены і забіраюцца ў хлявы, дзе стаіць жывёла і там ласаюцца сьвежым мясам. Бывае іншы раз, што сабакі не дапускаюць іх гаспадарыць у двары, тады яны стараюцца выманіць сабак са двара і падушыць. Многа ваўкоў гіне ад куль паляўнічых, ад атруты, ад капканаў, але шмат іх яшчэ і застаецца. Летам ваўку ня прыходзіцца так рызыкаваць жыцьцём, яму летам лягчэй украсьці авечку, парася, а таксама лягчэй можна ў лесе злавіць мыш, жабу, альбо якое-небудзь зайчанё ці птушку, а зімою няма ўсяго гэтага.

Не аднаму толькі ваўку цяжка жывецца зімою, ня лепш, а нават горш, у гэту пору жывецца лісу. Ён ня мае такое сілы, як воўк, яго не баяцца сабакі, якія шмат яму могуць пашкодзіць. Затое ліс спрытнейшы і хітрэйшы за ваўка. Ліс часам патрапіць злавіць зімою і варону, а ня толькі зайца; заечынай зімою ён толькі і жывіцца. Там, дзе ёсьць маладыя дрэўцы, альбо пасеяна на зіму жыта, там абавязкова будуць зайцы. Зайцы зімою кормяцца маладым зялёным жытам, якое дастаюць з-пад сьнегу, альбо аб'ядаюць кару з дрэў. У тых мясцовасьцях, дзе ёсьць зайцы, абавязкова будуць і лісы, бо лісам патрэбна для яды іх мяса. Гэта добра ведаюць паляўнічыя і не даюць спуску ні зайцам, ні лісам.

Ня надта ўжо добра жывецца ў лесе і нашай прыгожай вавёрачцы. Цэлае лета яна запасіць сабе для зімы арэшкі, але зімою ёй часта ня прыходзіцца іх спажыць. У яе таксама ворагаў процьма. Паляўнічы стараецца яе прыстрэліць, бо шкурка вавёрачкі мае досыць высокую цану, дзеля таго, што мае цёплы мех. Апрача паляўнічага ў вавёркі ёсьць яшчэ злейшыя ворагі: каршакі-сьцервятнікі, совы, а самы галоўны вораг вавёркі—гэта куніца.

Куніца невялікі зьвярок, трошкі большы за белку, добра лазіць па дрэвах, таксама як і белка, я па зямлі бегае лепш за белку, корміцца-ж куніца пераважна мясам і кроўю слабейшых за яе зьвяркоў. Калі куніца заўважыць дзенебудзь вавёрку, то беднай вавёрачцы не ўцячы ад сьмерці, зловіць яе куніца абавязкова, задушыць, высмакча яе гарачую кроў ды і кіне, а сама пойдзе далей шукаць другіх зьвяркоў. Нападае гэта куніца часта на птушак, на зайцаў і нават не дае спакою і маладым козкам. Затое і самую куніцу добра цікуюць паляўнічыя з сабакамі, бо мех у куніцы значна лепшы, чымся ў вавёркі і каштуе ён многа даражэй.

Рысь тонкі прыткі зьвярок. Велічынёю ён будзе меншы за ваўка, але па спрытнасьці, па сіле ваўку далёка да рыся. Рысь мае вельмі добры нюх, ходзіць нячутным па зямлі, цела яго ўпругае, гібкае, лазіць ён добра па дрэвах,—словам, страшэнна сярдзіты і спрытны зьвер. Вось у цёмным густым лесе, кругом сьнег, нідзе ані гуку. У гэты час ціха, асьцярожна крадучыся ідзе рысь. Ён вельмі галодны, больш трох дзён ён нічога ня еў. Вочы яго палаюць ад злосьці, раптам ён прыгнуўся, пацягнуў носам паветра і нячутна ўскочыў на густое яловае дрэва. Неўзабаве пачулася хрусьценьне сьнегу, гэта ціха, асьцярожна ідзе лось. Ён паволі абнюхваў паветра, прыслухоўваўся, ці не пагражае якая-небудзь небясьпека; ідучы, ён паволі скусвае верхавінкі маладых дрэўцаў і перажоўваў іх спакойненька. Але, калі ён параўняўся з яловым дрэвам, адтуль у міг вока на сьпіну яму саскочыў рысь і пачаў са страшэннай сілай рваць жывое цела лася. Бедная жывёла спачатку кінулася ўцякаць, але драпежнік сядзеў на ёй і рабіў сваю брудную справу. Вось ён абадраў ужо ўвесь хрыбет і запусьціў свае паганыя зубы і кіпці ў самыя нутранасьці беднае жывёліны. Сілы лася пачалі зьмяншацца і ён у страшэнных мучэньнях і з невынасімым ровам зваліўся на зямлю, а драпежнік упіваўся яго сьвежаю кроўю і глытаў яго гарачае мяса. Вялікую шкоду робіць рысь у нашых лясох, ён часам нападае на стадак кароў, выдзірае вымены і хутка зьнікае, так што пастушкі часта і не заўважаць самога разбойніка. З рысем вядуць барацьбу, і зараз гэтага зьвера засталося ня так многа, але ў вялікіх лясох ён яшчэ ёсьць.

**Кіпель.**

---

# Буйная электра-станцыя ў Беларусі.

Недалёка ад Воршы (28 вёрст) у гэтым годзе распачнецца пабудова электра-станцыі, якая будзе мець агульна-саюзнае значэньне. На месцы, дзе будзе пабудавана электра-станцыя, знаходзяцца вялікія запасы торфу, які будзе служыць апалам для гэтай электра-станцыі.

Электра-станцыя павінна будзе ў далейшым зусім перабудаваць гаспадарку найбольш прамысловай часткі Беларусі—Магілеўскай, Аршанскай і Віцебскай акругаў. У гэтых раёнах у бліжэйшыя гады будзе распачата праца па пабудове шэрагу новых фабрык і заводаў. Пабудоўку *Асінаўскай* электра-станцыі (Асінаўкай называецца балота) маецца на мэце закончыць у канцы 1929 г., яна будзе даваць у першы-ж год вялізарную сілу для прамысловасьці.

На пабудову электра-станцыі разам з організацыяй распрацовак торфу пойдзе ня менш 17 міл. руб. Усе машыны і іншыя прылады, патрэбныя для электра-станцыі, будуць зроблены на савецкіх заводах.

Пабудова такой станцыі ў Беларусі зьявіцца вялікім крокам наперад у разьвіцьці нашай прамысловасьці.



# Наша жыцьцё.

## Па атрадах.

### Ажывілі сходы атраду.

*(Менск, 22 атрад).*

Раней сходы нашага атраду праходзілі неяк суха і не заўсёды маглі цікавіць піонэраў. Пытаньні ставіліся зусім неабмеркавана.

Цяпер сходы атрадаў значна ажывіліся. Гэтаму спрыяе новы спосаб, які мы пачалі ўжываць пры правядзеньні гутарак на сходах. Гутаркі падзяляюцца на асобныя пытаньні, якія даручаюцца таму ці іншаму піонэру. Гэты піонэр мае час стала абмеркаваць сваё пытаньне і пасьля ў патрэбны момант прыняць актыўны ўдзел у яго вырашэньні перад усім сходам.

Апрача гэтага, наш атрад пачаў практыкаваць экскурсіі ў розныя ўстановы. Да гэтага часу мы былі на экскурсіях: у Музэі Рэволюцыі, на Радыё Станцыі. Усё гэта значна дапамагло наогул ажыўленьню працы атраду, а таму наведваньне сходаў цяпер значна ўзрасло.

**І. Сапір.**

### Мы расьцём.

*(Слуцкі раён).*

Пры Слуцкай школе сялянскай моладзі ў пачатку гэтага навучальнага году організаваўся атрад піонэраў. Адразу з першых дзён атрад працаваў вельмі слаба: павадыр бадай што нічога не разумеў у сваёй працы, усе піонэры таксама ня былі азнаёмлены раней з піонэрскай працай і таму зусім яе ня ведалі. Але з цягам часу справа пачала мяняцца. Комсамольская ячэйка зьвярнула больш увагі на працу атраду. Быў вылучаны другі, больш падрыхтаваны і ведаючы піонэрскую працу, павадыр, выпісана некалькі часопісяй і газэт. Дзякуючы гэтаму, атрад наш заслугоўвае ўвагі з боку сялянства і ўсіх дзяцей, за лік якіх з кожным днём атрад расьце.

**А. Гаміла.**

### Займаемся фізкультурай.

*(Мястэчка Круглае, Аршаншчына).*

У нашым мястэчку маецца інструктар фізкультуры, які акуратна праводзіць спорт-заняткі з піонэрамі. Да гэтага часу ў нас маецца тры групы фізкультурнікаў, з якіх: 2 групы для хлопцаў і 1— для дзяўчат. Трэба адзначыць, што заняткі праходзяць даволі рэгулярна, піонэры вельмі задаволены фізкультурай.

**С. Лур'е.**

### Як мы дасталі грошы.

*(Плешчаніцы, Барысаўскай акругі).*

72-му атраду патрабаваліся грошы на абсталяваньне клюбу, выпіску газэт і іншыя дробныя выдаткі. Як-жа і дзе дастаць гэтыя грошы? „Організаваць складчыну, пусьціўшы падпісны ліст",— прапанавалі некаторыя. Але мы зрабілі інача. Мы падрыхтавалі добрую п'есу, паставілі платны спэктакль, ад якога атрымалі 25 руб. прыбытку. За гэтыя грошы мы выпісалі на 6 месяцаў шмат піонэрскіх і комсамольскіх газэт і часопісяй.

**Піонэр Х. Н.**



# Па нашых школах.



## Фортпост, прачніся!

Пры нашай школе ўжо даўно існуе форпост, але працы яго ня відаць. Піонэры вучацца дрэнна і не карыстаюцца аўтарытэтам сярод вучняў. Калі склікаецца сход форпосту, дык заместа 200 піонэраў зьяўляюцца толькі 50—60.

Форпост павінен ня спаць, а ўзяцца за працу. Дзеткор **Н. Бярозкін.**

## Наш гурток.

*(Багушэвічы).*

Пры нашай сямігодцы існуе краязнаўчы гурток, які яднае навокал сябе значную колькасьць вучняў. Гурток знаходзіцца пад кіраўніцтвам настаўнікаў.

За ўвесь час мы правялі значную працу: знайшлі і даставілі ў мясцовы краязнаўчы музэй шмат цікавых экспанатаў, старасьвецкіх рэчаў і г. д. Сябры гуртку і вучні вельмі зацікаўлены гэтай працай.

**У. Сянькоўскі.**

## Сорамна.

*(Менск, 1-я чыгуначная школа).*

Карысныя заняткі знайшлі сабе вучні 1-й Менскай чыгуначнай школы. Сьцены разьдзявальні размалёваны рознымі брыдкімі словамі і надпісамі.

Школьком павінен на гэта зьвярнуць увагу і прыцягнуць вінаватых да адказнасьці. **Бунтар.**

# З кулямі і знарадамі...

Мы парашылі трымацца да апошняга знарада, да апошняй кулі. Аддаць гэтак танна абараняемы намі горад было для нас цяжка, тым больш што камандзір нас абнадзейваў:

— Таварышы, трымацца будзем да канца... Знарады хутка будуць дастаўлены...

Раптам густы агонь ворага паступова сьціхае і, урэшце, становіцца ціха. У жудаснай цішы адчуваецца небясьпека, небясьпека, якую можна перажыць толькі на вайне тады, калі ад белых можна чакаць абыходу, наступу і, нават, перамогі...

— Кураў... Пятроў... сюды,—загадачным шопатам заклікае камандзір трох хлапцоў з каманды разьведчыкаў,—ідзеце даведайцеся ў чым справа.

Поўзаючы і гразнучы ў сьнезе, пашлі разьведчыкі. Усе напруджана чакаюць.

Неўзабаве чуецца сыгнал з боку рэзэрва:

— Знарады дастаўлены!

Гоман ад радасьці разносіцца сярод нашых шэрагаў.

— Ніводнага знарада!—хвалюецца камандзір,—чакаць! Без загаду не страляць.

Чакаем. Хвіліны здаюцца гадзінамі. Мароз шчыпле нос. Рукі гараць... Некаторым, праўда, горача, а некаторыя б'юць рукамі адну аб другую: грэюцца.

З канца акопа па дроту перадаецца вестка камандзіру:

— Разьведчыкі вярнуліся... разьведчыкі вярнуліся...

Хутка зьявіліся і разьведчыкі. Вестка разьведчыкаў была радаснай: „У белых адчуваецца недахоп людзей, яны парашылі чакаць папаўненьня з левага флянгу... Але разам з тым і сумнае: „Пятроў па неасьцярожнасьці вельмі далёка зайшоў у бок ворагаў, астаўся ад Курава і прапаў. Сам Кураў чуць захаваўся ад разьведкі ворага“.

Камандзір задумаўся.

З штабу, задыхаўшыся, прыбег веставы. Перадаў загад і пабег назад.

Па дроту перадаюць ізноў:

— Па сыгналу ў атаку... па сыгналу ў атаку...

— Урра! Ур-р-ра!!!

Захапіўшы колькі хто мог бомбаў і знарадаў, атрад вылазіць з акопаў.

У вадной руцэ трымаем бомбы, другой кідаючы іх, з крыкам накінуліся на „ворага“...

...Град сьнежак пасыпаўся ў бок „белых“. З шумам, сьмехам і бадзёрасьцю нашы наступаюць. „Белыя“ не пасьпяваюць абчышчаць каўняроў ад сьнегу: новыя і новыя сьнежкі ляцяць на іх...

— Урра! Наша ўзяло!

— Перамога за чырвонымі!

Перамога была прысуджана нашаму атраду „будаўнікоў“.

Гэтак весела скончылася „вайна“.

Атрад з барабанным боем зьвяртаўся да клюбу. Павадыр зацягнуў:

„Мы піонэры працоўнай сям'і,
Дзеці з загонаў чырвоных краін...“

І ўвесь атрад падхапіў бадзёрую песьню.

**Б. Брадоцкі.**

# „Беларускі Піонэр“ у вёсцы.

За апошні час рэдакцыя атрымлівае ад сваіх дапішчыкаў шмат матар‘ялу аб тым, як ідзе на мясцох падпіска на „Беларускі Піонэр“.

З гэтага матар‘ялу відаць,. што ў справе пашырэньня і прасоўваньня „Б. П.“ сярод мас піонэраў і дзяцей маецца нейкі зрух і пэўныя дасягненьні. Шмат якія атрады, якія раней ня выпісвалі і ня чыталі часопісі, цяпер праводзяць кампаніі падпіскі на яе, клапоцяцца аб пашырэньні апошняй і г. д.

З усяе кіпы допісаў, якія ляжаць перад намі, выбіраем найбольш характэрныя. Піша дзеткор Э. Ляльчук з мястэчка Лельчыцы (Мазыршчына).




„Галоўным лёзунгам працы нашага атраду за апошні час было падняць падпіску на „Беларускі Піонэр“. Шмат працы правёў наш атрад у гэтым напрамку, вёў агітацыю сярод піонэраў і дзяцей, растлумачваў ім значэньне часопісі. У выніку падпіска павялічылася на шмат экзэмпляраў“.

Вось гэты атрад, праводзячы кампанію за пашырэньне „Б. П.“, стаў на правільны шлях: ня вёў аднэй голай агітацыі, а растлумачваў піонэрам і дзецям значэньне часопісі. Так павінны рабіць і іншыя атрады.

„Раней у Старобінскай сямігодцы (Случчына) было зусім мала падпішчыкаў на газэты і часопісі. Цяпер мы маем каля 100 падпішчыкаў на розныя пэрыодычныя выданьні, з іх на „Беларускі Піонэр“—30“. (В. Бялько).

„Калі спачатку ў Заслаўскім атрадзе імя „Парыскай Комуны“ падпіска на пэрыодычныя выданьні кульгала, дык цяпер кожны піонэр выпісвае газэту альбо часопісь“. (З допісу Е. Сасінскага).

Аб дасягненьнях у справе пашырэньня „Б. П.“ пішуць таксама дзяткоры: Ю. Таўбін, Я. Крэмэр, М. Дрыбынскі, М. Варшал і інш.

Мы са здавальненьнем можам адзначаць, што некаторыя атрады і асобныя дзяткоры не атрымліваючы ад рэдакцыі ніякіх дырэктыў і паказаньняў, з запалам узяліся за распаўсюджваньне часопісі, патрацілі шмат энэргіі і дабіліся свайго.

Але сярод іншых допісаў мы атрымалі вельмі характэрны допіс М. Сульскага з Койданава, які апавядае пра наступны факт: на сходзе вучняў беларускай сямігодкі пры абмяркоўваньні пытаньня аб выпісцы газэт была ўнесена прапанова аб выпісцы „Беларускага Піонэра“. Супроць гэтага выказваліся некаторыя піонэры, якіх падтрымалі шмат якія вучні, і, такім чынам, часопісь ня была выпісана. Некаторыя на гэтым сходзе казалі, што „Б. П.“—часопісь для малых дзяцей і што лепш замест яе выпісаць якую-небудзь газэту для дарослых...

„Няхай будзе вядома Койданаўскім „дарослым людзям“, што „Беларускі Піонэр“ разьлічан на ўсіх піонэраў і дзяцей сярэдняга і старэйшага ўзросту“, так заканчвае свой допіс М. Сульскі. Мы лічым, што койданаўскія піонэры і вучні мала знаёмы з сваёй часопісьсю і таму толькі маглі так гаварыць.

* * *

З усяго вышэйсказанага чытач можа сабе ўявіць, як абстаіць справа з пашырэньнем „Беларускага Піонэра“. Гэту справу належыць разглядаць не як часовую кампанію, а як сталую сыстэматычную задачу. 10.000 падпішчыкаў „Беларускага Піонэра“—павінна стаць лёзунгам усёй піонэрорганізацыі. Пры належных і сьвядомых адносінах піонэраў да гэтай задачы апошняя, бязумоўна, будзе выканана.

**Я. Зэльцар.**

# Як весела правесьці вольны час.

## Нашы адпачынкі.

Увесь час займацца сур'ёзнай справай або працай—нельга. У дзіцячыя гады больш, як калі, хочацца павесяліцца, пажартаваць, пасьпяваць, паказаць сваю спрытнасьць.

Кожны ўспамінае дзяцінства і заве яго „залатым часам“.

Тав. Крупская ў адным з сваіх артыкулаў аб дзіцячым руху, адпачынку і дзіцячых гульнях—яскрава адзначыла:

„Шляхам гульні можна выхаваць зьвера, можна выхаваць і комуністага. Юныя піонэры бяруць на сябе апошнюю задачу“.

Гэта значыць, каб дзеці навучаліся культурнаму абыходжаньню паміж сабой, каб у сьмеху, у гульнях, жартах дзеці спатыкаліся з пытаньнямі, неабходнымі ім у занятках па школе, у працы на гаспадарцы, на прадпрыемстве—адпачываючы пашыралі свае веды.

Гарадзкія дзеці ў некаторай ступені магчымасьць для гэтага маюць: ёсьць памяшканьні, літаратура, спортгурткі, лыжы і інш.

Горш абстаіць справа з вясковымі дзяцьмі. Яны часта пазбаўлены ад такіх мажлівасьцяй і вольны час скарыстоўваюць па іншаму.

Прышлося назіраць як пудзіцкія дзеці (Пухавіцкі раён) у вольны час зьбіраюцца цэлымі чародамі і бягуць за дарослымі хлопцамі, часам п'янымі, на дарослую вячорку.

Дзяцей ня пушчаюць .Пастаяць яны, памерзнуць пад вокнамі, „палюбуюцца“, як іх старэйшыя браты выкідваюць розныя нумары і гайда па вёсцы ламаць частакол і бегаць за сабакамі, або стукаць у вокны суседзяў.

Ад такіх „гульняў“ лёгка вырасьці найлепшым хуліганам. Пасьля такой вясёласьці—дзеці часта хварэюць (прастудзяцца, руку ці нагу хто-небудзь зломіць). Вёсак і мястэчак падобных Пудзіцку у нас шмат.

## Трэба вучыцца весяліцца.

Нашы некаторыя атрады лічаць, што каб наладзіць вясёлы вечар, ці правесьці сьвята—у першую чаргу неабходна падрыхтаваць п'еску. Ёсьць на гэта магчымасьці і сілы ці няма—іх ня цікавіць. А ў выніку—п'ескі слаба падрыхтоўваюцца, вечары праходзяць мёртва.

Дзіцячыя вечары і ранішнікі павінны кіпець здаровым сьмехам, бурліць новай песьняй. У вёсцы лепш за ўсё практыкаваць ранішнікі, бо ўвечары няма такіх магчымасьцяй як днём (сьвет, вольныя памяшканьні і інш.).

Пара ўжо спазнаць, што цікава і карысна, і што трэба выжыць, як устарэлае і шкоднае.

## Як-жа наладзіць цікавую вячорку, ранішнік?

Гарадзкім дзецям гэта зрабіць няцяжка. Вясковым—трудней. У вёсцы вячорку, ранішнік трэба наладжваць у нядзелю—у вольны ад працы дзень.

Неабходна прыцягнуць да гэтай працы настаўніка (настаўніцу), які дапаможа ў організацыі, у падборы матар'ялу.

Нельга захапляцца развучваньнем вялікіх п'есак. Для такіх вясёлых ранішнікаў неабходна скарыстоўваць цікавы бытавы жыцьцёвы матар'ял, які досыць лёгка падрыхтаваць.

Апрача дэклямацыі (індывідуальнай і колектыўнай), сьпеваў, спартыўных выступленьняў, дзецям неабходна падрыхтаваць некалькі цікавых гумарыстычных сцэнак-размаўленьняў. Такія нумары неабходна прыпадносіць прысутным нечакана, каб іх зьдзівіла навінка.

Трэба старацца ўнікаць такіх выпадкаў, калі адна частка дзяцей артысты, другая публіка. Неабходна наладжваць вячоркі і ранішнікі так, каб у іх прымалі ўдзел усе дзеці без выключэньня. Для гэтага неабходна падрыхтаваць некалькі цікавых масавых гульняў, якія пажадана праводзіць у перамешку з іншымі нумарамі.

Сярод дзяцей ёсьць свае „таленты“. Аўтару гэтых радкоў прышлося бачыць, як піонэрка вёскі Барбарова (Бабруйская акруга) утварыла невялічкую піонэрскую групку плястыкі. І ня гледзячы на тое, што ў іх распараджэньні ня было ні музыкі, ні новых цікавых нумароў—выступленьне апошняй на вечарох

вельмі прыхільна сустракалася прысутнымі. А ў Сьмілавіцкім раёне (вёска Жораўка) мне вядомы адзін хлопчык, які на губах сыграе цэлую „палкавую“ музыку.

Такім дзіцячым „талентам“ трэба даваць магчымасьць выступаць, даваць магчымасьць для пашырэньня іх ініцыятывы. Інакш кажучы, іх трэба прыцягваць на такія сходы-вечары дзіцячага адпачынку.

Цікавей пройдзе вячорка, калі сярод дзяцей ёсьць свае музыканты. У іншым выпадку трэба запрашаць якога-небудзь пажылога дзядзьку-музыку.

Самае галоўнае, трэба каб матар'ял быў кароценькім, зразумелым, цікавым і вясёлым.

Такія ранішнікі-вячоркі трэба наладжваць у піонэрскіх клюбах, а там, дзе такіх няма—у школьных будынках і ў прасторных сялянскіх хатах.

### Дзе ўзяць матар'ял?

На беларускай мове ёсьць пакуль што толькі дзьве дзіцячыя кніжачкі, выдадзеныя Беларускім Дзяржаўным Выдавецтвам: „Піонэрскі сьпеўнік“ (25 кап.) і „Гульні юных піонэраў“ (40 кап.). Гэтыя кніжачкі, часопісь „Беларускі піонэр“, асабліва яе старонка *„у часе адпачынку“*, павінны паслужыць *грунтоўным матар'ялам* для вясёлага правядзеньня часу.

Можна ўпамянуць і некалькі расійскіх выданьняў: Л. Рубінштэйн—зборнік *„Угадай“* (35 кап.); „Сто игр юных пионеров“; Н. Бартрам „Игры с масками и уборами“ (35 кап); В. Н. Фалькнэр „Будем сильны и здоровы“ (30 кап.).

Апрача гэтага Белдзяржвыдатам друкуецца і хутка выйдзе гумарыстычны зборнік „Комсамольскія вячоркі“, дзе багата зьмешчана ксмсамольскага, піонэрскага і бытавога гумару, вясёлых задачак і шмат іншага матар'ялу.

**З. Паваротны.**






## Жарты і задачы.

### Задача № 1.

Пералажэце ў гэтай фігуры 10 запалак так, каб атрымаўся маўзалей Леніна.



### Задача № 2.

Злажэце з 15 запалак слова „Ленін“, пасьля гэтага пералажэце ў гэтым слове 9 запалак так, каб атрымаць год сьмерці Ільліча, напісаны лікамі.

### Задача № 3.

Прышоў грамадзянін у краму і купіў капялюш. Капялюш каштаваў 10 р. Ён даў крамару тры чырвонцы ў аднэй бумажцы. Крамар пашоў да свайго суседа, разьмяняў тры чырвонцы на дробныя, прышоў і даў здачы пакупцу 20 р., апошні забраў капялюш, 20 р. здачы і пашоў. Цераз некалькі хвілін сусед прыходзіць да крамара і, аддаючы яму тры чырвонцы, кажа: на табе твае тры чырвонцы, яны фальшывыя, аддавай назад мае добрыя грошы. Крамар дастаў добрыя грошы і мусіў аддаць суседу тры чырвонцы добрымі грашмі, пакінуўшы фальшывых тры чырвонцы сабе.

Колькі рублёў страціў крамар?

### Задача № 4.

Ляцела цэлае стада шпакоў, паселі яны на калкох. Калі сядуць па два шпакі на адзін кол, то адзін кол застанецца лішні, а калі сядуць па аднаму шпаку на кол, то аднаго кала ня хопіць.

Колькі было ў плоце калоў і колькі ляцела ў стадзе шпакоў?

*Запісана ў Казырскай школе, Лагойскага раёну.*

### Задача № 5.

Кравец мае кавалак сукна ў 10 мэтраў даўжыні і штодня адрэзвае ад кавалка па 1 мэтру. На каторы дзень ён адрэжа апошні раз?

*Запісана ў Лядзкай школе, Лагойскага раёну.*

### Задачка-жарт (Ляшэвіча).

Адзін шчупак зьеў другога шчупака, але, у сваю чаргу, быў зьедзены трэцім, а трэці чацьвертым. Які шчупак можа сказаць, што ён зьеў шчупака?

## Жарты (дз. Міхалкі).

### Тое, але ня тое.

Заказчык (краўцу):—Паслухайце, гэта-ж вы мне сапсавалі!

— Чым гэта?

— Гляньце: правы рукаў шырэй і карацей левага!

— Нічагусенькі! Памылка, праўда, ёсьць, але толькі ня ў тым...

— У чым-жа па вашаму?

— Левы рукаў трошку вузейшы...

### Прашу ня кратацца.

Фотограф, наставіўшы апарат на твар нябожчыка, зьвярнуўся да яго:

— Цяпер прашу я вас быць спакойным, ня кратацца і зрабіць вясёлую міну.

# ПАШТОВАЯ СКРЫНКА.

*В. Супрыкову, Дзергачову, М. Капаткевічу, П. Юзьвінкевічу, А. Адашчыку, Сушчынскаму, Кандраценку, Ю. Фрайману, Б. Раскіну* і іншым: Вашы допісы не прадстаўляюць цікавасьці для часопісі і зьмешчаны ня будуць.

*Я. Панамарову, Курбацкаму, Супруну, Кучынскаму, У. Сяміцкаму, Вянбовічу:* Прысланныя Вамі вершы слабыя: друкаваць іх нельга.

*Г. Рыкліну:* Дзяткорам ты залічаны. Пішы далей.

*А. Малевічу*: Наша часопісь дарэмна не рассылаецца.

*В. Стромкаму*: Допісы, дрэнна напісаныя алоўкамі на абодвух бакох паперы, рэдакцыя не прачытала. Пішы выразьней.

*Е. Лельчуку, Серакову, Міжкоўскаму*: Вашы задачы, малюнкі і г. д. ня пойдуць. Пішэце лепш допісы.

*Базылю Раманаву і Ягору Кулікаву:* Рэдакцыя ваш ліст атрымала і прыме захады, каб часопісь вам акуратна дастаўлялася.

---

## Атрымай адказ.

### Запытаньні дзяткораў.

1. Ці можна піонэру наведваць зачыненыя сходы ячэйкі ЛКСМБ?
2. Ці можа быць павадыром зьвяна піонэр, які ня здаў урачыстага абяцаньня?
3. Ці могуць неорганізаваныя дзеці прысутнічаць на сходах зьвяна?
4. Ці мае права павадыр рабіць зачыненыя пасяджэньні савету атраду?
5. Дзе можна купіць вясковаму атраду барабан?
6. Ці можна прыцягнуць да адказу піонэра, згубіўшага гальштук?
7. Ці можа атрад імя М. Чарота паслаць апошняму ліст і па якому адрасу?
8. Куды зьвярнуцца, каб прынялі бяспрытульнага хлапца ў дзіцячы дом?

### Адказы:

1. Калі гэты піонэр не комсамолец— нельга.
2. Няможна.
3. Чаму-ж не. Трэба старацца іх прыцягваць на гэтыя сходы.
4. Мае права.
5. Можна выпісаць з гораду па наступнаму адрасу: Менск, рог Ленінскай і пляц Волі, МЦРК.
6. Няма за што. Нельга.
7. Можна. Адрас наступны: Менск, рог вуліцы Маркса і Ленінскай, рэдакцыя „Савецкая Беларусь“, Міхасю Чароту.
8. У камісію дапамогі дзецям пры акруговым аддзеле Народнай Асьветы.

---

## ЗЬМЕСТ.

. Чакаем слова ад піонэраў—арт. **А. Пякарчыка.**—2. Напралом—апав. **Нікановіча.**—3. Чалавек ідзе—апав. **Я. Маўра.**—4. Будзь гатоў—п‘еска **Благамыслава.**—5. Экскурсія на лыжах—нарыс **М. Душэўскага і А. Каліты.**—6. Вучымся сталярству—арт. **Я. Зэльцара.**—7. Наша жыцьцё.—8. З кулямі і знарадамі...— нарыс **Б. Брадоцкага.**—9. Жыцьцё зьвяроў зімой—арт. **Я. Кіпеля.**—10. „Беларускі Піонэр“ у вёсцы.—11. Як весела правесьці вольны час—арт. **З. Паваротнага.**— 12. Угадай.—13. Паштовая скрынка.

---

Выдавец: **Выдавецтва „Чырвоная Зьмена“** Рэдактар—**Рэдколегія**

Цана 12 кап.

# ПАДПІСВАЙЦЕСЯ

**НА ІЛЮСТРАВАНУЮ ДЗІЦЯЧУЮ ЧАСОПІСЬ**

# БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР

Орган ЦК ЛКСМБ Наркамасьветы

„БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР“ на сваіх старонках зьмяшчае самыя рознастайныя матар‘ялы, цікавыя для піонэраў, школьнікаў і ўсіх дзяцей.

„БЕЛАРУСКІ ПІОНЭР“ уводзіць шэраг новых, дагэтуль нядрукованых, матар‘ялаў з жыцьця людзей і прыроды. Багата высьвятляецца жыцьцё дзяцей у школах і атрадах.

УВЕСЬ ЛЕПШЫ МАТАР‘ЯЛ з дзіцячай літаратуры вы знойдзеце толькі ў часопісі „Беларускі Піонэр“, якая арганізавала вакол сябе ўсіх найвыдатнейшых старэйшых і маладзейшых пісьменьнікаў Беларусі.

КОЖНЫ ПІОНЭР і ВУЧАНЬ павінен чытаць, выпісваць і быць організатарам колектыўнай падпіскі на „Беларускі Піонэр“—часопісь усіх дзяцей.

## УМОВЫ ПАДПІСКІ

| | | | |
|---|---|---|---|
| На 1 м-ц. . . . | 20 к. | На 6 м-цаў . | 1 р. 20 к. |
| На 3 м-цы . . . | 60 к. | На 1 год . . | 2 р. 40 к. |

**ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА:** ва ўсіх паштова-тэлеграфных установах БССР, упаўнаважанымі агентамі па збору падпіскі выд. „Чырвоная Зьмена“, у Менску—Савецкая, 63, Кантора газ. „Звезда“